Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

24 чэрвеня 1998 года
СЕРАДА
№ 48 (128)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

● ФОТАСЮЖЭТ

## Ох, цешча мая, выратавальніца...

У аператарскай пульта торфапрадпрыемства "Бярозаўскае" з выпадку прыезду журналістаў сабраліся рабочыя з мэтай выказаць набалелае. Іх развагі зводзіліся к таму, што не важна, які ў краіне будуецца сацыялізм (развіты ці рынкавы), галоўнае, каб чалавек за сваю працу атрымліваў не грашы, а грошы. Людзі гаварылі прыкладна вось што:

— Праца на заводзе цяжкая. А за шкоднасць плацяць мізер. Якая можа ісці гаворка пра клопат аб чалавечым здароўі, калі працуючы ў дзве змены, па 12 гадзін глытаем пыл і атрымліваем за начныя гадзіны 100—140 тысяч рублёў у месяц. Надбаўка за стаж таксама маленькая. Калі сабраць усё ў кучу, дык месячная зарплата самага кваліфікаванага рабочага-ветэрана ледзь-ледзь цягне пад два мільёны. У астатніх заробак вагаецца ў межах мільёна. А ёсць катэгорыі працуючых, якія атрымліваюць наогул 600-700 тысяч. Паспрабуйце за такія грошы пракарміць сям'ю. Ды калі б за гэтыя грошы! З іх жа пасля аплаты кватэры і іншых абавязковых рахункаў амаль нічога ў кашальку не застаецца.

Калісьці аб рабочых крыху клапаціліся. Давалі кватэры, знаходзілі транспарт для адвозу і прывозу на работу. Цяпер з пасёлка дабірайся, чым хочаш. Летам выратоўвае веласіпед. А зімой?

Іншы раз з'яўляецца думка наогул кінуць гэтую нікчэмную работу. Але ж у Івацэвічы таксама дабірацца цяжка. Вось і вымушаны працаваць тут. Дзякуй, што многім з нас дапамагаюць бацькі ці цесць з цешчай. Каб не яны, то даўно пайшлі з сумкай па свету.

**Замест каментарыя**. Дзесяць год назад з уводам у строй новага абсталявання торфазавод мог выдаваць на-гара штогод 60 тысяч тон брыкету. Цяпер сем ліній адначасова працуюць рэдка. Не адпавядае стандартам па вазе тарфакрошка. Умовы працы складаныя. Таму прадукцыйнасць і, зразумела, паказчыкі тут нізкія. Аднак людзей, звязаўшых з прадпрыемствам свой працоўны лёс, хвалюе не толькі тое, што большасць прыбытку ідзе на аплату энерганосьбітаў і падаткаў. Яны хочуць атрымліваць такую зарплату, каб адчуваць сябе больш-менш рабочымі, а не жабракамі. Ёсць у іх спадзяванні не толькі на цешчу-дабрадзейку, але і на свае сілы, вопыт і ўмелыя рукі. Такія, як у Сяргея Шылава, якога вы бачыце на здымку.



*З рабочымі, майстрам змены і, у прыватнасці, з героем фотаздымка — аператарам тэхналагічных печаў Сяргеем Шылавым гутарыў і фатаграфаваў А. ГАНЧУК.*

### Бензін у дэфіцыце

У апошнія дні на аўтазапраўках, што размешчаны паблізу Івацэвічаў на трасе Брэст-Мінск, з-за недахвату гаручага ўведзены абмежаванні на запраўку транспарту.

Так, бензін марак АІ-76 і АІ-92 для ўладальнікаў асабістага транспарту за наяўны разлік наогул не адпускаецца.

Для дзяржаўнага транспарту па магнітную картку можна атрымаць не больш за 20 літраў бензіну. Дызельнае паліва пакуль што прадаецца без абмежаванняў.

Як паведамілі рэспубліканскія газеты, беларускія нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы цяпер працуюць толькі з айчыннай сыравінай, а яе, вядома ж, у Беларусі мала.



● КОЛА ДУМАК

## Дарогі, якія мы выбіраем...

***Няроўны шлях чалавечага жыцця: то вузкі, то шырокі, то прамы, то звілісты, то роўны, то з хібамі, але заўсёды — адзін, як адзінае само жыццё. І аднойчы для ідучага па ім наступае момант, калі ўперадзе паказваецца ростань і прыходзіцца выбіраць: улева ці ўправа, цемра ці святло, ісціна ці хлусня. Трэцяга не дадзена, а па дзвюх дарогах адначасова не пакрочыш...***

Жылі ў адным сяле два чалавекі. Жыццёвы лёс распарадзіўся так, што ў 1917 годзе абодва яны, тады яшчэ юнакі, апынуліся ў Піцеры. Адзін працаваў на фабрыцы, другі служыў матросам на легендарнай "Аўроры". Да рэвалюцыйных падзей мелі самае ўскоснае дачыненне: першы выпадкова мог трапіць на які-небудзь мітынг, другі наогул быў абмежаваны ў інфармацыі карабельнымі матроскімі абавязкамі.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны зноў яны апынуліся ў сваёй роднай вёсцы. Працавалі, выйшлі на пенсію. І тут улады вырашылі выкарыстаць іх у ідэалагічных мэтах. Першаму прапанавалі выступаць з лекцыямі на тэму: "Я видел Ленина". За гэта — прывілеі, узнагароды, маральная пашана. Ён згадзіўся, хоць, як раней прызнаваўся аднавяскоўцам, Леніна ўсё ж не бачыў (на адным з мітынгаў бачыў толькі Калантай). Па "Кароткім курсе гісторыі ВКП (б)" крыху падвучыў хроніку рэвалюцыйных падзей, пачынаючы са Сталыпінскіх рэформ і канчаючы момантам, калі ён быццам бы бачыў на мітынгу Леніна. Прыдумаў, якое ўражанне на яго аказаў апошні. Расказваў гэта ўсё на розных урачыстых сходах, юбілеях, перад шматлікімі аўдыторыямі, піянеры запісвалі тыя "успаміны", улады, у сваю чаргу, адзначалі ганаровымі граматамі, падарункамі і г. д.

Другому прапанавалі прыкладна тое ж — выступленні на тэму "Рэвалюцыйныя падзеі на крэйсеры "Аўрора". Але з адной умовай: перастаць хадзіць у царкву і быць пры ёй званаром. Нядоўга ён разважаў: "Як жа я магу гэта кінуць, калі і бацька мой усё жыццё быў званаром, і я ўжо колькі год званю? Ды і навошта мне тыя ўзнагароды, грошы. Пенсіі мне хапае". Так і працягваў хадзіць нядзелямі на сваю званіцу і па ўсім наваколлі разносіўся цудоўны перазвон.

Прайшоў час. Памерлі абодва тыя чалавекі. Ад першага застаўся куточак у школьным музеі: граматы, узнагароды, "успаміны". Але рэдка хто з аднавяскоўцаў успамінае аб ім, і няма ў тых скупых словах пашаны.

Затое па нядзелях, па святах, калі паветра напаўняецца пералівам царкоўных званоў, добрым словам памінаюць людзі старога званара, сычцінаю ягонага сэрца, чысціню ягоных думак.

***Кожны на сваім жыццёвым шляху аднойчы прыходзіць да ростані і паўстае перад ім няпросты выбар: якой дарогай крочыць далей?..***

*М. СІНКЕВІЧ,*
*г. Бяроза.*

● ПОСТ ДАІ

## Пасля медавухі — не соладка

Два камерсанты з Івацэвічаў (назавём іх Мішам і Аркадзем) на сваім "Мерседэсе" паехалі ў Целяханы, каб купіць мёду ў аднаго з пчаляроў. Мёду яны не купілі, бо яшчэ яго не было. Пчаляр паабяцаў, што праз тыдзень-другі абавязкова будзе. Каб не адлугнуць пакупнікоў, гаспадар пачаставаў сваіх гасцей медавухай, і тыя паехалі. Гэта было 13 чэрвеня ў 12 гадзін 30 хвілін.

А ўжо ў 14 гадзін 30 хвілін Міша і Аркадзь імчаліся на "Мерседэсе" з боку вёскі Выганашчы. Паблізу санаторыя "Палессе" на вялікай хуткасці машына ўрэзалася ў тоўстую хвою на абочыне дарогі, аж тая нахілілася. Адскочыўшы ад першага дрэва, машына ўдарылася ў другое і таксама з вялікай сілай, што ледзь не паваліла сасну. Але ж на гэты раз машына спынілася, абхапіўшы сваім жалезным целам тое дрэва. А ў салоне "Мерседэса" тым часам, сціснутыя з усіх бакоў, знаходзіліся двое мужчын. Спатрэбілася нямала часу і шмат намаганняў, каб з дапамогай розных рэжучых інструментаў вызваліць шафёра і пасажыра з той "няволі". Абое, на шчасце, засталіся жывымі, з цяжкімі траўмамі яны апынуліся ў бальніцы.

Што прывяло да аварыі? У першую чаргу, вядома, ліхацтва. А гэтаму, відаць, пасадзейнічала тая медавуха, якой частаваліся мужчыны ў Целяханах. А можа яшчэ дзе былі ў гасцях тыя пацярпелыя? Словам, пасля медавухі — не солодка.

Наташа С. з г. Бярозы ў спякотны чэрвеньскі дзень загарала на возеры паблізу вёскі Няхачава. Ужо дакладна вядома, што медавуху яна не піла ў кампаніі знаёмых, можа што-небудзь памацней, але здарылася так, што хлопец з той жа кампаніі, распачаў валтузню з дзяўчынай ля дарогі. Як вынік, Наташа папала пад машыну. З цялеснымі пашкоджаннямі яе даставілі ў бальніцу.

Дзве аварыі і трое пацярпелых. Не ад нейкай стыхіі, прыроднага бедства, а ад уласнай бесклапотнасці за сваё здароўе і жыццё.

*М. ШЛЯЖКА,*
*старшы інспектар дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● ЦІ ЧУЛІ?

### Патрабуюць свабоды дэпутатам

Дэпутаты бундэстага ФРГ запатрабавалі вызвалення арыштаваных беларускімі ўладамі членаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава. Аб гэтым гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным Пасольствам Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь.

### На Чарнобыльскай АЭС непаладкі

На мінулым тыдні быў тэрмінова спынены трэці энергаблок Чарнобыльскай АЭС.

Пазапланавы рамонт выклікаsuccessful працёкам вады на адным з дапаможных трубаправодаў турбіннай установкі і парушэннем у працы аднаго з вузлоў электрагенератара. Адміністрацыя ЧАЭС сцвярджае, што парушэнні не прывялі да змянення радыяцыйнай абстаноўкі на станцыі і вакол яе.

*(БелаПАН).*

ГОД ПАСЛЯ ЎРАГАНУ НА ЦЕЛЯХАНШЧЫНЕ

# Лес адпачываючых вабіць не надта

У вершалінах карабельных соснаў час ад часу спрабуе крылы вецер. Нават ад невялікага яго свавольства дрэвы прыкметна гойдаюцца. А год таму яны гнуліся амаль да зямлі. Многія, цэлыя дзялянкі лесу, не вытрымалі ўраганны шквал ветру і, нібыта пераламаныя няўмольнай рукою асілка напалову, падалі ніц.



Цяпер аб тым дні мінулага года целяханцам напамінаюць сагнутыя паўдугой дрэвы, якія ўцалелі, і паляны з пянькамі замест лесу.

Целяханшчына пасля стыхіі аднавілася хутка. На сродкі, выдзеленыя дзяржавай, за некалькі тыдняў было прыведзена ў парадак жыллё ў навакольных вёсках, адрамантаваны і аднаўлены калгасныя пабудовы. Шматлікую работу выканалі брыгады з многіх раёнаў Брэстчыны па расчыстцы лесу і будаўніцтву.

Вось толькі на тэрыторыі санаторыя "Палессе", што зусім побач з Целяханамі, малюнак іншы. Уражанне такое, нібыта ўраган тут прайшоў тыдзень назад. Хаця зламаныя дрэвы выкарчаваны і вывезены, аднак побач з цэнтральным уездам з боку шашы ў вочы кідаюцца рэшткі драўніны, шматлікія кучы смецця. Не адрамантавана агароджа і некаторыя пабудовы.

Зразумела, што на гэтыя мэты не хапае сродкаў. Аднак яны ж былі выдзелены для ліквідацыі наступстваў стыхіі для Целяханшчыны ў немалых памерах. Медыкі санаторыя не разумеюць, чаму да патрэб "Палесся", дзе адпачываюць як дарослыя, так і дзеці, адносіны, як гаворыцца, па рэштковаму прынцыпу. Яны лічаць, што дзе-дзе, а на тэрыторыі санаторыя, парадак трэба было навесці ў першую чаргу.





І поўнасцю прызнаюць права атрымаўшых ці купіўшых пуцёўку ў "Палессе" на паўнацэнны адпачынак не толькі фізічны, але і маральны. Пакуль што ўлонне прыроды не надта спрыяе гэтаму. Хіба што блакітнае возера, якое раскінулася зусім побач, заспакойвае адпачываючых.

Што датычыцца наогул Целяханшчыны, то чэрвень месяц (амаль роўна праз год пасля ўрагану) прынёс ёй лівневыя дажджы, якія пашкодзілі дзесяткі гектараў яравых і азімых зерневых. На прысядзібных участках у Краглевічах падтоплены пасевы бульбы. Страты падлічваюцца, але ўжо цяпер ясна: яны будуць вылічвацца вялікімі сумамі...

*А. ГАНЧУК.*
*Фота аўтара.*

СПЕЦЗАДАННЕ

# Як я купляў СКВ у Івацэвічах



Адна мая знаёмая Н. вельмі абуралася тым, што яна ніяк не можа купіць расійскіх рублёў або іншай валюты.

— Збіраюся ехаць да сына ў Кастраму, — злосна гаварыла яна. — Я ж не паеду з "зайцамі". Каму яны там патрэбны? Ну даеду я да Масквы яшчэ за беларускія. А што далей? І як жыць у той Кастраме? Няўжо сын мяне павінен і карміць, і купляць білет назад?

— Зайшла ў банк, — працягвала яна, — спытала, а там на мяне паглядзелі так, нібы я пракажоная. Да валютчыкаў я сама баюся падыходзіць. Сёння за гэтыя аперацыі могуць "адваліць" такі штраф, што самлееш. Ды... пасада ў мяне такая (Н. — загадчык адной са школ раёна), што, Божа, ратуй праслаўціца на ўвесь раён з гэтай валютай. Пайдзі, калі ласка, хоць ты купі.

Сапраўды, падумалася мне, як можа такое быць, каб бацькі не маглі з'ездзіць да сваіх дзяцей у Расію. Гэта там больш дзіўна, што падобнае адбываецца ў той час, калі адзін дзяржаўны дзеяч Беларусі, ад якога залежыць амаль усё, пастаянна даказвае, што ён выступае за тое, каб мы былі заўсёды разам з Расіяй, каб бацька мог паехаць да сына, маці — да дачкі, каб не было ніякіх межаў, слупкоў. А між тым "укапаны" новы слуп. Грашовы.

Каб не быць галаслоўным, я рашыў абысці ўсе афіцыйныя пункты абмена валют Івацэвіч. Першым пунктам майго "падарожжа" аказаўся філіял "Прыорбанка" АКБ 0508 па вуліцы Савецкай.

"Высокопарный, но голодный, для вида прейскурант висит", — успамінаюцца вершы А. Пушкіна, калі заходзіш сюды. Жанчына, што працуе тут, на абмене, нават не падымае галаву, калі падыходжу да акенца.

— Ці можна купіць у вас... сто рублёў расійскіх, — пытаюся я, адчуваючы ўсю недарэчнасць свайго пытання.

Жанчына падымае галаву і глядзіць на мяне так строга, быццам я сказаў такую дурасць, што і зразумець немагчыма. Пытаюся зноў, ці няма тут чаргі і ці нельга пастаяць і пачакаць з'яўлення валюты.

"Ну, пастой, хлопец", — з усмешкай прамаўляе жанчына, і я, адчуваючы сябе вельмі няёмка, накіроўваюся да наступнага акенца. Філіял Аграпрамбанка, што ў гэтым жа памяшканні. На акуратна прыклееным аркушы паперы там паведамляецца, што філіял "валюту" купляе, але не прадае.

Наступны пункт маіх "похождений" — філіял № 111 Беларусьбанка. На раўнюсенькім шчыце вывешаны курсы: долар 48.900—49.500, марка 27.000—27.400, расійскі рубель 7.800—8.000. Але ўжо па тым, што каля акенца няма ніводнага чалавека, разумею марнасць свайго візіту.

Усё ж такі пытаю ў касіра, ці можна купіць 100 расійскіх рублёў. Касір, мілавідная бландзінка, з усмешкай прывітання глядзіць на мяне, напэўна, лічачы, што хлопец рашыў пажартаваць. Але паступова яе позірк суровее, яна, відаць, разумее, што ўсё гэта азначае не прэлюдыю да прыемнай размовы, што проста нейкі дзівак хоча невядома чаго. "Няма", — адным словам адказвае яна, нібы кажа: "Згінь". І праўда, праз пару секунд мяне ў памяшканні няма.

Маё сумленне перад Н. чыстае. На маё: "Няма", яна развяла рукамі: "На няма і суда няма!"

Са спакойнай душой іду на рынак. Курсы там іншыя, але там можна і купіць, і прадаць СКВ. І расійскія рублі тут, вядома, ёсць. Разгаварыўся з адным незнаёмым хлопцам, які згадзіўся звесці мяне з валютчыкам. Я паспрабаваў вывесці мянялу на шчырую размову. Вось яго думкі наконт сітуацыі з "доларамі-марачкамі".

— Нас тут ведае ўвесь горад. Ці не баюся пакарання? Вядома, баюся. Але сёння патрабаванні людзей ў куплі-продажы СКВ вельмі вялікія. Бывае, што за дзень праз рукі праходзяць велізарныя грошы. Усё гэта вызначае ступень рызыкі маёй працы. У нас мяняюць валюту ўсе: прыходзяць жонкі і дзеці раённага кіраўніцтва (самі кіраўнікі, напэўна, саромеюцца), начальнікі рангам ніжэй, іншыя службовыя асобы. Увогуле сітуацыя з валютай паказвае тое, на якую ступень крывадушнасці мы, беларусы, здольны. Сітуацыя нагадвае казку пра голага караля, калі ўсе бачаць, што кароль голы, але не хочуць гэта прызнаць. Я ж раблю канкрэтную справу і лічу, што справа мая карысная. Хоць да турмы — пару крокаў.

**Неабходны каментарый.** Да турмы пару крокаў не толькі валютчыку, але і мне, чалавеку, які думае, дзе набыць СКВ. Увогуле, у час маіх блуканняў я ўвесь час успамінаў тургенеўскага героя Чартапханава, які хацеў навучыць свайго сабаку гаварыць. Для гэтага ён марыў яе галадам, а калі яна цягнулася да ежы, то біў кулаком па галаве. Ці не падобная сітуацыя на Беларусі? Нас прымушаюць жыць не так, як можам, а як хоча хтосьці наверсе. І пры выпадку б'юць кулаком па галаве. Ці не таму нашы турмы напоўнены людзьмі, галоўная віна якіх заключаецца ў тым, што яны хацелі з'ездзіць да сына ў Кастраму?..

*А. ГОРБАЧ.*

**P. S.** Спецыяльная заўвага для Канавак, Ёвінскіх і іншых таварышаў, схільных да навядзення "парадку" метадам стукацтва: ні расійскія рублі, ні іншую СКВ у валютчыкаў я не купляў. Я — грамадзянін законапаслухмяны, праблему набыцця СКВ толькі даследаваў як журналіст.

КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

# Скарбы Беларусі

Геолагі зямельку ўмела
Абследуюць, нібы ўрачы.
Маўчы, зняможанае цела!
Душа цярплівая, маўчы!

Свідруюць, робяць пункцыі,
Шукаюць скарбы ў глыбіні,
Ды золата, ну нават унцыі,
Не можа быць там, ані-ні.

Там толькі мноства-мноства солі!
Застыўшы пласт яе засох...
А гэта — слёзы! Іх — даволі
Прайшло праз таўшчыню эпох.

Ці буры вугаль там, ці штосьці
З пабочнай тленнасцю на трэць?
Не! Гэта ўсё — людскія косці.
Таму ім ярка не гарэць.

Вось нафта — смоль адвечная,
Нарэшце, цыркнула далоў...
А можа чалавечая
Пралітая вякамі кроў?

Зямля мая раўнінная
Застыла ўглыбіню і ўшыр...
І сталі мышцы глінаю,
А тлушч — пяском, ці проста — жвір.

Штодня геолагі-умельцы
Абследуюць упарта глыб.
Дык хай бы ў матухны-зямельцы
Што-небудзь добрае знайшлі б.

*Алесь КАСЬЯНОВІЧ.*
*г. Баранавічы.*

КУПАЛЬНЫЙ СЕЗОН

# Судьба?..

***Весной на Жлобинском озере в окрестностях Барановичей повторилась прошлогодняя трагедия — утонул и несколько дней пролежал на дне водоема молодой человек. Тело само всплыло.***

В этом году городские власти всерьез взялись за благоустройство водохранилища на речке Мышанка и прилегающей к ней зоны отдыха. Оригинальные навесы и скамеечки, песчаные пляжи, предупреждающие об опасностях на воде, буйки-ограждения мест купания. Спасательные катера всегда наготове. Спасатели — молодые, крепкие, обученные этому благородному делу. Отдыхай, купайся под бдительным надзором обслуживающего персонала.

И все же... Судьба... В самой гуще купающихся както незаметно утонула девочка. Хватились — поздно. Извлечено бездыханное тело. Вину можно отнести только на беспечных, теперь уже безутешных родителей.

Кстати, Светиловское, искусственное озеро в городе, очень глубокое и холодное (питается ключевыми водами), поглотившее в прошлом году парня, которого спасатели нашли аж на шестой день, закрыто для любителей купания. Но разве удержишь неугомонную детвору, беззаботных взрослых? Потому и здесь дежурят спасатели, выполняя двойные обязанности: в меру своих сил не допускают людей к воде и спасают. Поскольку водоем окружен красивой лужайкой, то здесь, как на Мышанке, устроены места для отдыха, переодеваний.

*Н. ПЕТРОВ.*

ПРЕССА

# ОБСЕ имеет определенные обязательства в отношении свободы выражения и свободы средств массовой информации

Говоря о свободе средств массовой информации и, в частности, о моей должности, хотелось бы выделить две драматичные и исторические причины, почему все современные общества с развивающимися экономиками, чьи граждане с надеждой смотрят в будущее, так нуждаются в свободе слова и свободе средств массовой информации.

Первой причиной является фундаментальное право каждого человека выражать свое мнение и свои наблюдения. Это неотъемлемое право, и все те, кто пытается помешать его реализации, действуют в нарушение основных принципов, предусмотренных международными соглашениями.

Вторую причину, объясняющую необходимость свободы средств массовой информации, я бы назвал функцией коррекции. Чернобыльская трагедия не случилась бы, если бы в бывшем Советском Союзе были созданы условия для открытой дискуссии о перспективах и опасностях использования атомной энергии.

Подобных дискуссий, открытых для всего общества, просто не было. Все, что касалось этой темы, находилось в форме засекреченных отношений между узким кругом экспертов, которые не имели права открыто критиковать своих коллег. Сегодня в мире нет ни одного общества, которое смогло бы жить без неотъемлемой потребности в открытых дискуссиях по вопросам технического, социального, политического и культурного характера.

Беларусь является членом организации, которая считает себя не просто группой, объединяющей разные страны, но семьей, соединяющей демократии. У Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе (ОБСЕ) есть своя собственная история, которая заключается в историческом процессе преодоления холодной войны и достижения единых принципов свободы и демократии. Третий пакет документов, принятых на Хельсинкской конференции в 1975 году и подписанных в свое время Леонидом Брежневым, был первым шагом в этом направлении. Многие люди не воспринимали тогда всерьез эти документы. Но некоторые понимали всю их значимость, что позволило положить конец "холодной войне".

Мне хочется вспомнить некоторые обязательства ОБСЕ в отношении свободы выражения и свободы средств массовой информации. Организация всегда отстаивала свободу выражения как одно из важнейших прав человека и всегда подчеркивала (даже во времена разделенной Европы), насколько важно свободное распространение информации и идей между странами.

Когда в конце "холодной войны" страны — участницы ОБСЕ достигли единства по вопросу общих ценностей и политических целей, это также предусматривало изменение роли средств массовой информации во многих странах. В 1990 году в Копенгагене все члены ОБСЕ согласились, что "никакие правовые или административные препятствия не могут стоять на пути свободного и недискриминационного доступа к средствам массовой информации для политических групп и отдельных лиц, желающих принять участие в избирательном процессе". Они также признали, что "независимые и плюралистические средства массовой информации являются первейшим условием свободного, открытого общества и подотчетного, контролируемого правительства". Сам факт, что правительство Беларуси проголосовало в поддержку моего мандата и меня лично, говорит о том, что оно желает быть членом семьи ОБСЕ, в которой такое важное значение придается свободе слова.

События последних лет в Беларуси свидетельствуют о том, что отношение к этим всеобъемлющим обязательствам в стране не может быть признано удовлетворительным. Конституция 1994 года и закон о прессе и других средствах массовой информации 1995 года содержит положения о свободе выражения, которые, однако, часто не выполняются на практике. Нередко правительственные резолюции и другие нормативные акты вступают в противоречие с этими положениями.

Ко мне все чаще и чаще обращаются отдельные лица и представители неправительственных организаций как из самой Беларуси, так и из других стран по поводу того, что белорусская государственная власть нарушает многие международные стандарты. Вот лишь несколько примеров действий белорусских властей:

— приостановление деятельности или закрытие негосударственных средств массовой информации из-за содержания публикуемых ими материалов (например, закрытие газеты "Свобода" в ноябре 1997 годы);

— задержание и судебное преследование журналистов за выполнение ими своих служебных обязанностей (Павел Шеремет и Дмитрий Завадский);

— создание препятствий в работе средств массовой информации;

— закрытие некоторых негосударственных станций радиовещания (Радио 101,2 в августе 1996 года), а также преследование негосударственных СМИ по финансовым и другим мотивам;

— цензура в государственных средствах массовой информации.

Недавно мне стало известно о правительственном решении, запрещающем официальным лицам комментировать или распространять официальные документы негосударственным средствам массовой информации. Более того, государственным предприятиям запрещается размещать рекламные публикации в частных изданиях. Это решение ставит государственные издания в привилегированное положение в плане доступа к системе распространения информации и получения дополнительных доходов. Оно ни в коей мере не согласуется с международными обязательствами страны, и мне, как политику и журналисту, трудно понять, как оно согласуется с потребностями современного общества.

Таким образом, в стране становится все сложнее вести дискуссии на политически значимые темы, поскольку существует опасность определенных последствий для тех, кто учавствует в подобных дискуссиях. С другой стороны, консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ уже начала предпринимать конкретные шаги по организации свободных дискуссий как первой ступени при переходе к плюралистическому и демократическому обществу. Я понимаю, что президент страны поддерживает эту инициативу.

Как представитель немецкой нации, я не на словах знаю, что значит преодолеть две разные "по отношению к средствам массовой информации" диктаторские системы. Еще будучи ребенком, во время войны, я слышал через тонкие стены нашей квартиры, как по радио у соседей передавали выступления Геббельса (у моей матери в то время еще не было радио). Нацистская система была невозможна без тотального контроля над публикациями и радиопередачами. Для того чтобы проводить свои кампании ненависти и войны, эта система нуждалась в централизованно контролируемых средствах массовой информации. Все это факторы, которые, безусловно, разрушают любое демократическое общество. На мой взгляд, свободный рынок средств массовой информации и негосударственные издания сделали много для того, чтобы установить свободный и демократический строй в моей стране.

*Фреймут ДУВЭ, представитель ОБСЕ по свободе средств массовой информации (БелаПАН).*

З АЛЬБОМА НЕСЯМЕЙНАГА



# Для дома, для семьи, для души...

*СТАРАЯ БУСЛЯНКА*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

## Што азначаюць радзімкі?

На вуху — бязлітаснасць.
На скуле — поспех, дабрабыт і ўдача.
Каля рота — шчасце, пачуццёвасць.
На падбароддзі — слабое здароўе.
На носе — вялікае шанцаванне, падарожжы.
На горле — багаты шлюб; ажыццяўленне славалюбных планаў.
На шыі — мноства ўдач і крушэнняў надзей, нечаканая спадчына, няўдачы напачатку, але поспех у канчатковым выніку.
На кісці — прыродныя здольнасці, якія вядуць да поспеху.
На правай руцэ — удача, на левай — грашовыя клопаты.
На плячы — цяжкія і складаныя часы.
На спіне — сумленнасць і шчодрасць. Калі радзімка сядзіць вельмі нізка — пачуццёвасць і патуранне ўласным слабасцям.
На рэбрах справа — баязлівасць, занудлівасць, абыякавасць. Злева — тыя ж якасці, але ў меншай ступені і афарбаваныя іранічнымі адносінамі да сябе.
На клубах — дужыя, здаровыя дзеці і мноства ўнукаў.
На правым калене — бясклапотны шлюб і вялікія грошы. На левым — мітуслівасць.
На правай ступні — любоў да падарожжаў. На левай — кемлівасць.
На левай і правай нагах — ляноту.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Пейте столько воды, сколько хочется

Известно, что отказаться на время от еды легче, чем от воды. Наш организм постоянно теряет ее с потом, мочой, со слезами, да и дыхание наше "влажное". Поэтому запас воды необходимо постоянно пополнять. Сколько пить? Специалисты советуют не менее двух литров в день. А чтобы всегда хорошо себя чувствовать физически, эмоционально и при этом прекрасно выглядеть, можно и больше.

Лечение "питием $H_2O$" имеет свои показания и противопоказания. Но есть некоторые общие рекомендации.

Пейте воду небольшими глотками, думая о пользе, которую она приносит.

Обязательно нужно выпивать по стакану воды утром, сразу после пробуждения, перед сном и в течение дня за полчаса до еды. В остальное время — по потребности.

Полезно выпить половину или полный стакан свежей фильтрованной холодной воды (12—16° С) за 30 минут до обеда (она тонизирует желудок, увеличивая количество пищеварительных соков).

После еды пить воду лучше через 2—3 часа, когда появится сухость во рту.

При жажде из-за высокой температуры воздуха надо пить слегка подкисленную горячую воду, но не холодную, усиливающую жажду.

Обильное питье необходимо при сильном потоотделении, поносах, высокой температуре.

Нельзя пить холодную воду во время обеда, от этого портится зубная эмаль и ухудшается пищеварение.

Уменьшить потребление жидкости необходимо при вялой сосудистой системе, малокровии, расширении желудка и болезнях сердца.

Ученые-медики не рекомендуют пить нефильтрованную холодную водопроводную воду.

ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

## Как правильно приготовить пельмени

Кастрюлю для варки пельменей возьмите невысокую, но широкую, налейте в нее воду на 3/4 или 2/3 высоты. Доведите до кипения и перед тем, как бросить в нее пельмени, посолите, положите нарезанный лук, лавровый лист, укроп, петрушку. Варите пельмени от 8 до 12 минут, в зависимости от их величины. Когда изделия всплывут, убавьте огонь: при сильном кипении они лопнут. Всплытие — еще не сигнал готовности, изделия должны повариться. Затем аккуратно выньте пельмени шумовкой, положите в кастрюлю, слейте из нее стекшую воду и только после этого подавайте к столу. Причем хороший кулинар не только сцедит воду, а еще и слегка подсушит кушанье, поставив кастрюлю на 2—3 минуты на огонь. Масло и сметана не стекут с пельменей, а впитаются в них.

В тесто для пельменей молоко не льют: бульон мутнеет, а изделия быстро развариваются.

УЛЫБНИТЕСЬ

♦ Родители взяли маленького сына в кафе. Отец спрашивает:
— Мишенька, почему ты не ешь, а все время смотришь в гардероб?
— Я смотрю на свою куртку. А маминого пальто уже нет.

♦ Маленький мальчик с мамой у директора школы.
— Пойдем, мама. Если директор говорит, что все классы переполнены, не надо настаивать.

